ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

# Голас Радзімы

№ 5 (2199) 31 студзеня 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.

## СІМВАЛ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Сёлета спаўняецца роўна 400 гадоў, як горад Мінск атрымаў уласны герб. У прывілеі (грамаце) гаварылася, што мяшчане «места... Меньского» ад даўніх часоў мелі «герб на печать местскую». Ён быў апісаны і вымалеваны ў першых прывілеях, але ўсе арыгіналы гэтых дакументаў згарэлі ў час вялікага пажару ў замку Менскім. У сувязі з гэтым нашаму гораду быў нададзены «герб до лечати местское на ратуш, фикгуру внебовзятьи Панны Марыі, которое вжо они (жыхары Менска.— **А. Ц.**) за герб в печати местской вечне уживати мают». Гэты ўрывак заслугоўвае больш шырокага каментарыя. Справа ў тым, што магдэбургскія прывілеі былі дадзены старажытнаму Менску яшчэ ў канцы XV стагоддзя. Адпаведна з прывілеяй ад 14 сакавіка 1499 года дзеля «доброго розмноженья и хотечи положенье места нашего Менского в мере лепшой поставити» ў ім былі створаны органы самакіравання. Гарадскім уладам усе мяшчане «во всих речах повинни и были и в каждом деле послушни».

Гэтыя ўлады ў тыя часы складаліся з войта і дванаццаці радцаў. Яны абіралі па чарзе паміж сабой двух бургамістраў на год (як бачым, ідэя ратацыі кадраў ажыццяўлялася ў Менску ўжо з канца XV стагоддзя). Іхнія пасяджэнні адбываліся ў ратушы, якая знаходзілася на сучасным пляцы Волі (тут цяпер невялічкі сквер). За парадкам у горадзе назіралі «полецаи», на іх жа ўскладаўся абавязак сачыць, каб не парушаліся правілы гандлю на рынках, каб не было спекуляцыі. Ствараліся спрыяльныя ўмовы сваім купцам, а іншагароднім забаранялася гандляваць у розніцу. Каб не было абмеру і абвесу пакупнікоў, пры ратушы існавала важніца, у функцыі якой уваходзіла назіраць за мерамі вагі і якасцю тавараў.

У той жа прывілеі (1499 год) упершыню ўпамінаецца гарадская пячатка. Але на сёння невядома, што за выява... ла на ёй. Знойдзена пяча... прыкладзеная да дакументаў 1570—1571 гадоў. На ёй быў надпіс кірыліцай «ПЕЧАТЬ МЕСТСКАЯ МЕНЬСКАЯ». А ў цэнтры шчыт з літарамі «ГО[СПОДИ ПО] МО[ЗИ]». А... толькі пасля прывілеі 1591... да на пячатках нашага гор... з'яўляецца рэальны герб, які быў прадметам гонару менчукоў на працягу амаль чатырохсот гадоў, сведчаннем іхняй незалежнасці ад іншых прадстаўнікоў феадальнага грамадства. Дазвол на карыстанне гарадскім гербам быў пацвярджэннем асаблівага, прывілеяванага становішча мяшчан. «Местскі» герб, па-першае, упрыгожваў фасад гарадской ратушы, гарадскія сцягі. Гарадская пячатка з адпаведным гербам была своеасаблівым га-

(Заканчэнне на 6-й стар.).





Таленавіты музыкант, спявак, кіраўнік славутага ансамбля «Песняры» Уладзімір МУЛЯВІН адзначыў сваё 50-годдзе. Павіншаваць яго з юбілеем сабраліся ў Доме-музеі Янкі Купалы ў Мінску прадстаўнікі грамадскасці, дзеячы мастацтва, калегі і сябры. Тое, што сустрэча была наладжана менавіта ў купалаўскім музеі, мае сімвалічнае значэнне. «Купала для мяне на працягу доўгіх гадоў, —сказаў У. Мулявін, — пуцяводная зорка, што асвятляе шлях у цёмную ноч, саграе сэрца, дае сілу і натхненне». Сказанае артыстам не проста прыгожыя словы: за імі — творчасць. Многа песень і кампазіцый на словы народнага песняра выканаў сам У. Мулявін. Увесь свой талент ён прысвяціў таму, каб слухачы далучаліся да прыгажосці беларускага слова, да мілагучных народных мелодый.

(Працяг фотарэпартажу змешчаны на 7-й стар.).

# ЗАЯВА ПРЭЗІДЭНТА СССР М. С. ГАРБАЧОВА

Таварышы! Крызіс, маральна-палітычная напружанасць у грамадстве, падзеі, якія прывялі да ахвяр, патрабуюць прамой і адкрытай размовы. У некаторай часткі грамадства праяўляецца неразуменне і нават нежаданне разумець палітыку Прэзідэнта.

Трагічны абарот, у які вылілася процістаянне ў Літве, а ў апошнія дні ў Рызе, я, як і ўсе, глыбока перажываю. Выказваю самыя шчырыя спачуванні сем'ям, каго закранула гэта бяда. Акалічнасці, звязаныя з прымяненнем зброі, павінны быць старанна расследаваны і ацэнены па закону.

Першае і галоўнае, што я хачу сказаць, зводзіцца да наступнага. Падзеі, якія адбыліся ў Вільнюсе і Рызе, ні ў якім разе не з'яўляюцца выражэннем лініі прэзідэнцкай улады, дзеля якой яна была створана. І таму рашуча адводжу ўсякія спекуляцыі, усе падазрэнні і нагаворы ў сувязі з гэтым.

Ні ўнутраная, ні знешняя палітыка не змянілася. Усё застаецца, як сфармулявана ў дакументах і афіцыяльных заявах кіраўніцтва.

Падзеі ў Прыбалтыцы ўзніклі ў абстаноўцы вельмі жорсткага крызісу. Процізаконныя акты, парушэнне самой Канстытуцыі, грэбаванне Указамі Прэзідэнта, грубае парушэнне грамадзянскіх правоў, дыскрымінацыя людзей іншай нацыянальнасці, безадказныя паводзіны ў адносінах да арміі, ваеннаслужачых і іх сем'яў стварылі тое асяроддзе, тую атмасферу, дзе такія сутычкі і пабоішчы вельмі лёгка могуць узнікаць па самых нечаканых прычынах.

Вось дзе крыніца ўзнікшай трагедыі, а не ў якіх-небудзь міфічных загадах зверху. Імена так адбылося і ў першым, і ў другім выпадку.

Як Прэзідэнт бачу галоўную задачу ў тым, каб не дапусціць эскалацыі процібарства, нармалізаваць абстаноўку, дабіцца згоды і супрацоўніцтва.

У сувязі з гэтым неабходна наступнае:

— Павінны быць адменены антыканстытуцыйныя законы Вярхоўных Саветаў і пастановы ўрадаў рэспублік, і перш за ўсё тыя, якія парушаюць правы чалавека.

— Любыя грамадскія арганізацыі, камітэты і франты, з якімі б праграмамі яны ні выступалі, могуць прэтэндаваць на прыход да ўлады толькі канстытуцыйным шляхам, без прымянення насілля. Усякія спробы апеляваць да Узброеных Сіл у палітычнай барацьбе недапушчальныя.

— Павінна быць абсалютна пакончана з дыскрымінацыйнымі мерамі ў адносінах да воінскіх часцей, дыслацыраваных на тэрыторыі рэспублік, з проста ганебнымі адносінамі да сем'яў і дзяцей ваеннаслужачых. У адпаведнасці з існуючымі на сённяшні дзень саюзнымі законамі войскі знаходзяцца там, дзе гэта дыктуецца патрабаваннямі абароны і бяспекі краіны.

— Адносіны грамадзянскіх улад з ваеннымі павінны будавацца толькі на аснове законаў Саюза ССР.

Разам з тым недапушчальнымі з'яўляюцца ніякія самавольныя дзеянні з боку войск. Абавязак і гонар камандзіраў усіх ступеней — дзейнічаць толькі па загаду, праяўляць вытрымку, не паддавацца на правакацыі, умацоўваць дысцыпліну сярод падначаленых.

— Пацвярджаючы канстытуцыйнае права рэспублікі выйсці з Саюза, мы не можам дазволіць ні стыхіі ў гэтай справе, ні самавольства — нават з боку выбраных органаў. Выхад можа адбыцца толькі на аснове волевыяўлення ўсяго насельніцтва — рэферэндуму, і ў выніку працэсу, прадугледжанага законам.

У сувязі са сказаным ёсць неабходнасць вярнуцца да абмеркавання сітуацыі ў Прыбалтыцы на Савеце Федэрацыі.

Падзеі апошніх дзён былі выкарыстаны пэўнымі коламі для нагнятання абстаноўкі пад выглядам нібыта праходзячага правага павароту і небяспекі дыктатуры.

Я рашуча адводжу гэтыя домыслы. Заваёвы перабудовы, дэмакратызацыі, галоснасці былі і застаюцца непераходзячымі каштоўнасцямі, на варце якіх будзе стаяць прэзідэнцкая ўлада.

Гэта, вядома, не азначае, што мы можам праходзіць міма, пакідаць без увагі, калі сродкі прапаганды, так, іменна прапаганды — давайце называць рэчы сваімі імёнамі — наўмысна выкарыстоўваюцца для правакавання хаосу, панікі, нацыянальнай варожасці, для проціпастаўлення народа арміі, для заклікаў не лічыцца з законам.

Падзеі ў Прыбалтыцы спекулятыўна выкарыстоўваюцца як прычына для пастаноўкі пытання аб расчляненні нашых Узброеных Сіл, стварэння армій рэспублік.

Такія безадказныя заявы таяць у сабе сур'ёзную небяспеку, асабліва, калі яны зыходзяць ад кіраўніцтва РСФСР.

Думаю, што кожны разумны чалавек разумее, чым гэта магло б абярнуцца для нашай краіны і ўсяго свету.

Мякка кажучы, дзіўнымі і недарэчнымі выглядаюць паклоны да заграніцы, да Арганізацыі Аб'яднаных Нацый з запрашэннем вырашаць за нас справы, якія мы самі можам і павінны вырашаць.

Мы адкрылі сваё грамадства для супрацоўніцтва і ўзаемадзеяння з усім светам, будзем і ў далейшым вернымі ўзятаму знешнепалітычнаму курсу. Аднак унутраныя праблемы краіны павінны вырашацца толькі савецкім народам і нікім іншым.

Не магу не сказаць, што і за рубяжом нярэдка аднабакова тлумачацца апошнія падзеі, прычым — у радзе выпадкаў у манеры, якая нагадвае ідэалагічную вайну ранейшых часоў. Многія там, як і ў нас, успрынялі іх неадэкватна, убачылі ў іх паварот у палітыцы савецкага кіраўніцтва.

Прыкра і небяспечна, калі ў выпадку такой няправільнай інтэрпрэтацыі будзе пастаўлена пад пагрозу дасягнутае ў міжнародных адносінах за апошнія гады.

У ходзе разгорнутай у краіне вострай палемікі ў апошнія дні разважныя галасы напамінаюць, што галоўнае сёння — гэта палітычная стабільнасць, цвёрды прававы парадак і дысцыпліна, нармалізацыя ў эканоміцы, рашучы рух да рынку, дэмакратычнае пераўтварэнне нашай мнoганацыянальнай дзяржавы. Я падзяляю такую пазіцыю. У грамадстве ўсё больш усведамляецца, што не дэманстрацыі, мітынгі, забастоўкі, не распальванне палітычных страсцей і канфрантацыі выведуць краіну з крызісу, а добрасумленная праца і грамадзянская згода.

Да гэтага я заклікаю ўсіх грамадзян сваёй краіны.



# ПАЧЫНАЕЦЦА РЫНАК?

3 Серия АЗ-1
162691
САХАР
МАРТ 1991 г.
1 г. МИНСК

3 Серия АЗ-1
162691
САХАР
АПРЕЛЬ 1991 г.
1 г. МИНСК

3 Серия АЗ-1
162691
САХАР
МАЙ 1991 г.
1 г. МИНСК

3 Серия АЗ-1
162691
КРУПА
МАРТ 1991 г.
2 г. МИНСК

3 Серия АЗ-1
162691
КРУПА
АПРЕЛЬ 1991 г.
2 г. МИНСК

3 Серия АЗ-1
162691
КРУПА
МАЙ 1991
2 г. МИНСК

ВИЗИТНАЯ КАРТОЧКА
ПОКУПАТЕЛЯ
(МУЖСКОЙ АССОРТИМЕНТ)

3 Серия АЗ-1
162691
МАСЛО растительное
МАРТ 1991 г.
6 г. МИНСК

3 Серия АЗ-1
162691
МАСЛО растительное
АПРЕЛЬ 1991 г.
6 г. МИНСК

3 Серия АЗ-1
162691
МАСЛО растительное
МАЙ 1991 г.
6 г. МИНСК

КОММЕРЧЕСКИЙ МАГАЗИН
МЕРКУРИЙ



**Усё вяртаецца, усё паўтараецца!.. Вось такія даўжэзныя чэргі былі на вуліцах Мінска (ды і не толькі тут) ля магазінаў адразу пасля вайны. Людзі радаваліся маленькаму кавалачку хлеба ці некалькім метрам «мануфактуры», якія ўдавалася купіць. Але ж гэта быў такі час! З гадамі чэргі зніклі, жыццё паляпшалася. І раптам — зноў чэргі. Ды яшчэ якія!**

**Недзе ноччу, напрыклад, пачынаюць збірацца калоны пакупнікоў ля ЦУМа на плошчы Якуба Коласа. Хвасты іх расцягваюцца на цэлы квартал. Каб захаваць парадак, калоны раздзяляюць «амонаўцы» — супрацоўнікі міліцыі асобага назначэння. А пакуль адчыняцца дзверы магазіна, ад пакупнікоў завочна дастаецца і самому Прэзідэнту, і мясцовым уладам, і асабліва — рынку, які вінаваты ў тым, што нічога не стала ў продажы. Гавары што хочаш: плюралізм.**

**Але вось некаму ў чарзе стала млосна. Добра, калі знойдзецца спагадлівы чалавек, які дапаможа, адвядзе дамоў ці хоць дасць нейкую таблетку. На жаль, такіх «добранькіх» становіцца менш і менш. Ачарсцвелі нашы душы. Што з намі сталася!..**

**Адчыняюцца дзверы магазіна, і натоўп рынуўся ў «наступ». Ізноў ёсць «заціснутыя», узнікаюць лаянкі за месца ў чарзе, абражаюць і зневажаюць тваю людскую годнасць. Не ўсім удаецца што-небудзь купіць: мала тавараў. Праўда, ёсць камерцыйныя магазіны, дзе, як кажуць, навалам усяго. Але нешта не спяшаюцца сюды пакупнікі: цэны «кусаюцца», часам і валюта патрэбна. А дзе яе ўзяць!.. І ўсё-такі ў многіх людзей яшчэ цепліцца надзея, што рынак ліквідуе чэргі. Толькі ці прынясе дастатак многім сем'ям! Час пакажа.**

**НА ЗДЫМКАХ: чарга ля ЦУМа; візіткі, талоны на прамысловыя і харчовыя тавары — звычайная з'ява нашых дзён; дырэктар камерцыйнага магазіна «Меркурый» Даніла ГРЫБ: «У нас ёсць усё...»; аб'явы, аб'явы... На слупах, будаўнічых агароджах, нават на сценах розных пабудоў — нехта купіць, нехта нешта абмяняе.**

Фота С. КРЫЦКАГА.



*ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

# ГАЗЕЦЕ НЕАБХОДНА ДАПАМОГА

Вельмі шаноўная рэдакцыя!

6 лістапада 1989 года я падпісаўся на газету «Голас Радзімы» на цэлы год, заплаціў 16 долараў у магазіне г. Адэлаіда, што ў Паўднёвай Аўстраліі. Да гэтага часу газеты не атрымаў. 25 красавіка 1990 года я пазваніў у магазін і запытаў, што сталася? Адказалі, што магазін зачыніўся назаўсёды, па гэтай справе звяртайцеся ў Сідней і далі адрас. Ветліва прашу вас, вярніце мае грошы або замоўце мне газету. Копію квітка прыкладаю. Сёння ўжо 2.12.1990 года, а ні газеты, ні адказу, ні грошай няма. Перасылаю вам копію пісьма, што накіраваў ім на англійскай мове, копію паквітавання на 16 долараў і чэк на 20 долараў і ветліва прашу вас, высылайце мне газету «Голас Радзімы». Калі няма ў вас міжнароднага банка, то паведаміце мне, і я перашлю грошы ў Канберу ў Савецкае пасольства.

Чакаю адказу і газету. Шчыра дзякую загадзя. Газету вельмі люблю і чытаю запоем.

**На нашай мове беларускай—**
**Родная газета.**
**Высылайце і далей мне.**
**Дзякуй вам за гэта.**

З пашанай

**Джон РОЛСАН.**

Аўстралія.

**АД РЭДАКЦЫІ. Паважаны Д. Ролсан выказаў думкі і патрабаванні, сугучныя зместу і танальнасці многіх лістоў, якія мы атрымліваем ад замежных суайчыннікаў, такіх, як Б. Аўгусціновіч з Германіі і Д. Курыловіч з Канады і інш. Свае справядлівыя прэтэнзіі зарубежныя чытачы скіроўваюць у наш адрас. Дасылаючы ім наша шчырае «выбачайце, калі ласка!» за матэрыяльныя і маральныя страты, усё ж хочам апраўдацца, бо не наша гэта віна, а «Міжнароднай кнігі». Мы бачым у прыведзеных імі фактах гэтаксама ігнараванне інтарэсаў і аўтарытэту самога «Голасу Радзімы». Становішча наша незайздроснае, мякка кажучы; з аднаго боку — жаданне рэдакцыі як мага хутчэй выправіць хібы, з другога — мінімум магчымасцей. Мы нават не можам вярнуць спадару Ролсану ягоныя грошы. Вырашэнне гэтага і іншых падобных пытанняў — кампетэнцыя Усесаюзнага аб'яднання «Міжнародная кніга» і яго зарубежных партнёраў. Але, паважаючы права замежнага суайчынніка атрымліваць газету з яго гістарычнай Бацькаўшчыны, якія б цяжкасці яна ні перажывала: павышэнне цэн на паперу і паштовыя паслугі, цяжкасці з падпісной кампаніяй і г. д., мы будзем самастойна накіроўваць яму (і па рэкламацыі, і па асобных заяўках) нашу газету за кошт рэдакцыі. А тых землякоў замежжа, хто падтрымлівае нас у гэтым пачынанні, хто зацікаўлены ў яго эфектыўнасці, каго хвалюе далейшы лёс газеты, запрашаем (зважайце на нашы аб'явы!) аказаць ёй помач пасільнымі ахвяраваннямі.**

# АД «ПОЛАЦАКА» ДА «АРАЎ-ПАРКУ»

**Аляксандр ІВАНЮК (дырэктар агульнаадукацыйнага ліцэя з Гайнаўкі, Польшча):** «Я ўпершыню прымаю ўдзел у такой сустрэчы. Цешыць сам факт, што людзі незалежна ад месца іх нараджэння ці жыхарства, незалежна ад іх ідэалагічных арыентацый, могуць сустракацца, абмяркоўваць самыя розныя пытанні і знаходзіць канструктыўныя шляхі іх вырашэння. Такія сустрэчы вельмі патрэбныя, бо яны служаць справе пашырэння і паглыблення адраджэнцкіх працэсаў у Беларусі. Тут шмат людзей, якія адчуваюць сваю сувязь з Бацькаўшчынай і гатовы дапамагчы ёй маральна і матэрыяльна.

Мяне радуе і тая акалічнасць, што на сустрэчы шмат увагі адведзена беларусам Беласточчыны, у якіх нямала сваіх праблем ва ўсіх галінах жыцця».

**Міхась БАЯРОЎСКІ (старшыня аддзела Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі, Бірмінгем):** «Вельмі прыемная сустрэча, асабліва таму, што маем столькі гасцей з Беларусі, Беласточчыны, Віленшчыны. Гэты новы будынак «Полацака» будзе прыцягваць гасцей. Прыемна было пабачыць артыстаў «Жывіцы». Не так даўно я вярнуўся з Беларусі, куды мы з айцом Надсонам вазілі медыкаменты. Мы перадалі іх у шпіталі ў Баранавічах, Менску, Гомелі і Хойніках.

Хочацца, каб такія сустрэчы беларусаў прадаўжаліся, каб на іх прысутнічала яшчэ больш людзей з Беларусі і наогул беларусаў з усяго свету».

**Валянцін СТЭХ (кіраўнік беларускага клуба «Сябрына» ў Вільні):** «Як я заўважыў, сам факт удзелу беларусаў з Бацькаўшчыны меў вельмі станоўчы ўплыў на моладзь беларускай эміграцыі ў ЗША. Мне стала вядома, да прыкладу, што пасля гэтай сустрэчы моладзь ужо абмяркоўвала пытанне аб адкрыцці своеасаблівай школы пры грамадска - культурным цэнтры «Полацак», дзе маладыя хлопцы і дзяўчаты мелі б магчымасць глыбей пазнаць гісторыю і культуру сваіх продкаў, удасканаліць свае веды ў галіне беларускай мовы і літаратуры. Таму мела б сэнс і ў Беларусі падумаць над тым, каб часцей запрашаць да сябе нашых суайчыннікаў з-за мяжы з культурнымі, а магчыма, і дзелавымі праграмамі. Да прыкладу, можна было б наладжваць выстаўкі мастакоў, сустрэчы бізнесменаў, ствараць спрыяльныя ўмовы для сумесных прадпрыемстваў. У такім разе беларусы маглі б пераняць з Захаду больш перадавыя, вартыя ўвагі тэхналогіі, абмяняцца вопытам у той ці іншай галіне дзейнасці. Пры гэтым частку сродкаў можна было б адлічваць у фонд дапамогі дзецям Чарнобыля, на развіццё культуры, на рэстаўрацыю помнікаў гісторыі Беларусі».

**Юры ХАДЫКА (Мінск):** «Было карысна пазнаёміцца з беларусамі, якія з'ехаліся на гэтую сустрэчу з розных краін і якія паяднаны адным — любоўю да Бацькаўшчыны. Адбыўся карысны абмен думкамі і планамі аб узмацненні кантактаў, аб падрыхтоўцы спецыялістаў для ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Мы пераканаліся, што прадстаўнікі беларускай эміграцыі разумеюць усю вастрыню чарнобыльскай бяды і ахвотна ідуць на дапамогу. Разам з тым мы адчулі, што перад нашымі суайчыннікамі стаяць некаторыя праблемы захавання роднай культуры і мовы. Вырашыць іх, вядома, было б значна лягчэй з дапамогай Бацькаўшчыны, і мы абавязаны аказаць такую дапамогу нашым суродзічам».



**Уладзімір НАВІЦКІ (намеснік старшыні таварыства «Радзіма»):** «Перш за ўсё хацеў бы адзначыць зацікаўленую, руплівую працу нашых гаспадароў і кіраўніцтва Беларуска-Амерыканскага Задзіночання па арганізацыі і правядзенню XIX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. Сапраўды, сустрэча прайшла ў дзелавым, канструктыўным духу, пра што яскрава сведчаць і тэкст рэзалюцыі, і выступленні ўсіх прамоўцаў, і тая абстаноўка добразычлівасці і ўзаемаразумення, якая панавала ў цудоўным новым будынку «Полацака» ўсе гэтыя дні.

Асабліва істотным мне ўяўляецца тое, што ўдзельнікі сустрэчы не «замкнуліся» на абмеркаванні сваіх унутраных праблем, а скіравалі ўсю ўвагу і клопат да Бацькаўшчыны, да яе адраджэння і выратавання ад чарнобыльскай бяды.

Сустрэча пераканала нас усіх, як шмат супольнага ў беларусаў Бацькаўшчыны і замежжа. На сённяшні дзень мы маем добрыя перадумовы для далейшага развіцця сувязей паміж таварыствам «Радзіма» і беларускімі суполкамі ў Амерыцы. Менавіта ў гэтым кірунку мы і маем намер працаваць».

Што ж, нельга не пагадзіцца з многімі думкамі, што прагучалі ў гэтых адказах. Сапраўды, XIX сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі зблізіла нас і яшчэ раз пераканала, што ў нас, беларусаў, дзе б мы ні жылі — агульныя не толькі паходжанне, гісторыя, культура, мова, але і задача — адраджэнне Бацькаўшчыны. Задача, якую не вырашыць за нас хто-небудзь іншы...

Стварэнню святочнай і ўрачыстай атмасферы спрыяла мастацкая частка XIX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. З трыумфам прайшоў канцэрт нашага ансамбля народнай музыкі «Жывіца», цёпла сустрэлі прысутныя выступленні Л. Барткевіча, С. Сокалава-Воюша, Данчыка, хору і танцавальнага ансамбля «Васілёк», а таксама песні і вершы ў выкананні вучняў Гайнаўскага ліцэя.

Але XIX сустрэча — гэта не толькі прамовы, даклады, выступленні, рэзалюцыі, інтэрв'ю і канцэрты. Гэта яшчэ і жывыя чалавечыя кантакты, спатканні і гутаркі са старымі і новымі сябрамі, эта тое, з чаго прадуцца самыя моцныя ніткі, якія вядуць да згоды, паразумення і лучнасці...

Як з блізкімі і дарагімі мне людзьмі пабачыўся я з Зорай і Вітаўтам Кіпелямі — гэтымі няўрымслівымі, апантанымі шукальнікамі і даследчыкамі беларушчыны ў свеце. Доўга і хораша гутарылі мы пра наша мастацтва, літаратуру, гісторыю і, здаецца, нават намацалі перспектывы навуковага супрацоўніцтва паміж нью-йоркскім Беларускім інстытутам навукі і мастацтва, які ўзначальвае доктар Вітаўт Кіпель, і нашым акадэмічным інстытутам літаратуры. Прыемна было спаткацца з рэдактарам газеты «Беларус» доктарам Янкам Запруднікам, які так шмат зрабіў для аб'яднання беларусаў і бліскуча справіўся са сваёй задачай вядучага і перакладчыка XIX сустрэчы... Надоўга запомніцца мне расказ Веры Рамук пра яе «адысею», што пачалася на Віцебшчыне і закончылася ў разбураным Берліне. У час Вялікай Айчыннай вайны 12-гадовай дзяўчынкай пад абстрэламі і бомбамі праехала яна на сялянскім возе гэтую далёкую і небяспечную дарогу. Сёння Вера Рамук разам са сваім мужам доктарам Вітаўтам не пакладаючы рук працуе на беларускую справу ў Амерыцы, прапагандуе любоў да ўсяго роднага, беларускага, наладжвае зборы ахвяраванняў на паратунак хворых чарнобыльскіх дзетак...

«Мы рабілі ўсё, што маглі, каб захаваць тут, на чужыне, нашу беларускасць,— прыгадваю я словы Кацярыны і Вячаслава Вініцкіх з Лос-Анджэле[illegible] — А нас лічылі нацыяналі[illegible]мі. Больш таго — здрадніка[illegible]мі, нямецкімі паслугачамі... Былі ў нас, праўда, і такія людзі, чые рукі, можа, і ў крыві, але гэта былі адзінкі. Абсалютная большасць з нас — чыстыя перад Радзімай і беларускім нарадам. Мы былі юныя, малая, ратавалі сваё жыццё і хіба можна за гэта папракаць?..»

Як цяпер, перада мною сустрэчы з калегамі па пяру: Янкам Юхнаўцом, Анатолем Бярозкам, Наталляй Арсеньевай, Аляксандрай Саковіч, Янкам Золакам, Масеем Сяднёвым. Хочацца верыць, што прыйдзе, абавязкова прыйдзе час, калі творы гэтых і іншых пісьменнікаў на эміграцыі пабачаць свет і на Бацькаўшчыне...

Нашы гасцінныя гаспадары Янка Ханенка, Кастусь Калоша, Сяргей Карніловіч, Аўген Кабяка, Ірына Каляда-Смірноф, Ева Яраховіч, Слава Карніловіч зрабілі ўсё магчымае, каб прадстаўнікі Беларусі адчувалі сябе як дома. Мы зрабілі цікавыя экскурсіі па Кліўлендзе і яго ваколіцах, наведалі мастацкі музей, у якім прадстаўлены творы жывапісу, скульптуры, прыкладнога мастацтва ад старажытнасці да нашых дзён, пабывалі на славутым Ніягарскім вадаспадзе, з'ездзілі на кароткі час у Чыкага, дзе пераканаліся, што і ў гэтым вялізным горадзе пры праваслаўнай царкве св. Юрыя ёсць ладная суполка беларусаў, якія дбаюць аб сваёй Радзіме-маці і, як могуць, стараюцца дапамагчы ёй залячыць раны, што нарабіў Чарнобыль...

Але ўсяму на свеце прыходзіць канец... Надышоў і той сумны дзень, калі мы развіталіся з гаспадарамі «Полацака»... Апошнія словы развітання, словы падзякі, поціскі рук, пацалункі, слёзы і шчаслівая ўзрушанасць, святочная эйфарыя, радасць сустрэч саступілі месца таму маркотнаму пачуццю якое заўсёды агортвае чалавека пасля разлукі з сябрамі...

...Ужо добра сцямнела, калі наш аўтобус спыніўся ля Беларуска-Амерыканскага грамадска-культурнага цэнтра ў Саўт-Рыверы. Нягледзячы на позні час, плошча перад цэнтрам была запоўнена людзьмі. Хлебам-соллю сустракалі нас мясцовыя беларусы...

Саўт-Рывер (штат Нью-Джэрсі) раскінуўся ў прыгожай раўніннай мясцовасці. Гэта ціхі, спакойны і параўнальна невялікі гарадок, дзе няма гіганцкіх прамысловых прадпрыемстваў, высокіх хмарачосаў і перапоўненых аўтамагістраляў. Затое тут шмат зеляніны, чыстага паветра, прасторы і ўтульнасці. Адсюль недалёка да Нью-Йорка (прыкладна 80 міль), крыху далей да Атлантычнага акіяна...

Вось у гэты гарадок у канцы 40-х — пачатку 50-х гадоў пачалі прыязджаць нашы суайчыннікі, якіх вайна параскідала па розных краінах Заходняй Еўропы. Зрэшты, яны не былі першымі беларусамі ў Саўт-Рыверы. Былыя жыхары Віленшчыны, Гродзеншчыны, Міншчыны, Палесся жылі тут з часоў I сусветнай вайны... Ды толькі дыялогу паміж прадстаўнікамі старой і новай беларускай эміграцыі ў Саўт-Рыверы не адбылося. «Старажылы» не разумелі і не падзялялі матываў прыезду сваіх землякоў у Амерыку...

**Леанід КАЗЫРА.**



**НА ЗДЫМКАХ: Ала ОРСА-РАМАНА, кіраўнік «Васілька», цікавіцца беларускімі сувенірамі, што трапілі ў «Полацак»; праваслаўная царква св. Ефрасінні Полацкай, пабудаваная беларусамі ў Саўт-Рыверы.**

**Фота А. АБРАМЧЫКА.**

**Працяг. Пачатак. у №№ 2—4.**

**Эмиграция... Слово, вошедшее в наш обиход наравне с такими, как «талоны», «визитки», «мафия». Явление, возродившееся с перестройкой. Для одних оно связано с надеждами на достойную человека жизнь и, может быть, даже процветание. Для других — с тревогой: с кем останется страна, если уедут миллионы!**

**Предлагаемые вниманию читателя статьи, надеемся, помогут составить представление, насколько проблема эмиграции из СССР волнует наше общество.**

### ЗА РУБЕЖ УЖЕ ВЫЕХАЛО 600 СОВЕТСКИХ МУЗЫКАЛЬНЫХ СЕМЕЙ

# «УТЕЧКА МОЗГОВ»: БЛАГО ИЛИ УГРОЗА?

Знаменитую скульптуру Родена «Мыслитель» иногда называют символом «интеллектуальной эры». В фигуре думающего человека передан драматизм мук творчества, стремление интеллекта проникнуть в тайны и загадки бытия.

Несмотря на эпохальные завоевания человеческой мысли, людей почему-то не покидает чувство тревоги. Для беспокойства имеются разные причины. К примеру, сегодня многие на Западе озадачены возможностью предстоящей миграции из СССР и восточноевропейских стран. Ситуация складывается и в самом деле уникальная.

В случае принятия в СССР закона о выезде и въезде граждан создается качественно новая ситуация на западном рынке рабочей силы вообще, интеллектуального труда — в особенности.

Что же происходит на самом деле? Согласно официальным данным, нашу страну в 1986 году покинуло 8 тысяч человек, в 1990-м — свыше 440 тысяч. Цифры при всей их многозначительности мало что говорят сами по себе. Существенно, что среди выезжающих львиную долю составляют ученые, художники, артисты, музыканты, рабочие высокой квалификации. В последние годы выехало за рубеж около 600 музыкальных семей. Выезжают не статистические единицы, а ярчайшие индивидуальности, талантливые люди. Независимо от арифметических подсчетов это невосполнимая утрата. Утечка умов и талантов — всегда потеря, она влечет за собой резкое снижение, а порой и обескровливание интеллектуального потенциала страны. Для большой страны это опасно, для малой — вдвойне. Не случайно правительства и общественность развивающегося мира бьют тревогу по поводу «великого исхода» образованных кадров. Соединенные Штаты за последнюю четверть века получили из развивающихся стран примерно 250 тысяч высококвалифицированных кадров, сэкономив в сфере образования и научной деятельности, по самым скромным подсчетам, не менее 15 миллиардов долларов.

На планете в результате «утечки мозгов» помимо зон экологического бедствия образуются зоны «интеллектуальной пустыни» — страны с острейшим дефицитом образованных кадров, с нехваткой национальной интеллигенции. Бегство в развитые страны усугубляет положение. Это пока еще зародыш одного из тех гуманитарных кризисов, для изучения, профилактики и преодоления которых ООН создала специальную комиссию. На мой взгляд, лучше не создавать критическую ситуацию, чтобы потом совместными и героическими усилиями искать выход из нее. Ведь можно на месте оказать интеллигенции гуманитарную помощь, помочь в обучении, снабдить научной литературой, приборами, инструментами. Создание совместных предприятий, лабораторий, культурных и научных центров и др., как показал опыт, весьма перспективный и эффективный путь развития. За ним будущее.

Американский посол в СССР Дж. Мэтлок считает одним из видов «утечки мозгов» не столь редкий случай, когда способности и дарования человека не могут осуществиться. Он никуда не уезжает, остается в стране, но страна все же его теряет, так как способности в си... х или иных причин и неблагопр... ых обстоятельств не смогли реализоваться.

Существует еще одна «утечка умов», которую почему-то принято не замечать. Если видный ученый уехал за границу, можно ожидать, что рано или поздно поте... его таланта заметят на родине, вс... снут руками: «Как много страна потеряла!» А если ученый на всю жизнь исчезает в лабиринтах военно-промышленного комплекса? Ведь это тоже потеря для общества. Расходы на вооружение сравнивают с «капиталом, брошенным в воду». Колоссальные затраты интеллектуального потенциала на гонку вооружений пока ощутимым образом не уменьшаются, продолжается «утечка мозгов», низвержение их в бездонный ВПК, подобное Ниагарскому водопаду. Заключенные правительствами и поддержанные народами соглашения о разоружении пока касаются созданных и существующих орудий убийства в ангарах и пусковых шахтах. Это исключительно важно, но надо идти дальше. Настала пора высвободить и обратить интеллектуальный капитал на гражданские цели. Оружия накоплено столько, что пятнадцать раз оно может уничтожить человечество.

Двинуть вперед хельсинкский процесс в деле свободного обмена идеями, информацией и людьми призваны исторические соглашения Парижской встречи СБСЕ. Но порой сказываются все еще нарушения баланса и паритета интересов в духе конфронтации времен «холодной войны».

В системе прав человека существен приоритет прав творческой личности на реализацию интеллектуального потенциала. В широком плане в этом заинтересована страна, в глобальном — мировое сообщество, все человечество. Поскольку «утечка умов» служит этому в рамках законов, соглашений и международного сотрудничест..., то ее можно приветствовать. Ес... е она подчинена эгоистическим и...ересам ВПК, продиктована своекорыстием отдельных социальных групп и даже некоторых стран в ущерб другим, то это не может не вызвать осужде... и неизбежное сопротивление.

Человечество совместными усилиями может многое сделать для максимальной адаптации творческой личности в социальной среде и реализации новых идей. Сегодня чуть ли не весь мир помогает новациям перестройки в нашей стране. Это неоценимые, великие проявления общечеловеческой солидарности. Выживание страны, цивилизации осуществляется через выживание и утверждение новых идей. Для осуществления идеи часто полезна помощь на месте научной экспертизой, советом, инструментарием, технологией реализации. Не обязательно автору самому ехать за тридевять земель. Ведь для адаптации обычного рабочего на новом месте нужно немало времени. А интеллектуал — работник особой чувствительности. Многие ученые, эмигрировавшие в другую страну, вынуждены были менять специальность, и их мало утешал известный факт, что даже представители российской царской фамилии работали в Париже таксистами. Для многих перемена места жительства и работы оборачивается личной трагедией.

Надо, таким образом, уменьшить совместными усилиями издержки «утечки мозгов», не впадать ни в эйфорию, ни в панику. Рассматривать явление в его истинном свете. Международное законодательство в области охраны прав творческой личности нуждается в срочном совершенствовании. Свобода мысли конкретизируется в свободе творчества, создании для него надлежащих условий, в первую очередь — мира.

Монтень как-то сказал: мир — это мяч, отданный на забаву философам, и не только им. Нельзя играть в футбол человеческими головами, превращая естественный процесс обмена идеями, талантами в серию запрограммированных ударов по чужим воротам. Тем, кто особенно щедр на рекомендации открыть все шлюзы «утечки мозгов» или, наоборот, снова готовится опустить «железный занавес», не мешает лишний раз взглянуть на роденовского мыслителя, который как бы советует: думайте, думайте и еще раз думайте...

**Николай КЕЙЗЕРОВ,**
**доктор философских наук,**
**профессор.**

### *МАССОВАЯ ЭМИГРАЦИЯ: РЕАЛЬНОСТЬ ИЛИ ВЫМЫСЕЛ?*

# НЕОБОСНОВАННЫЕ СТРАХИ

В последнее время много говорится и пишется об ожидаемой массовой эмиграции советских граждан.

Судя по всему, настало время рассеять ненужные страхи и отделить реальность от вымысла. Верно то, что разработка в Верховном Совете СССР проекта закона о выезде и въезде в СССР приближается к завершающей стадии. С его принятием советские граждане получат фиксированное право свободно выезжать из своей страны независимо от цели поездки — на работу, учебу, отдых, по частным делам — и так же свободно возвращаться на свою родину. Отдельные исключения из этого правила (например, посвященность в сведения, составляющие государственную тайну) будут четко зафиксированы в законе, включая указание срока действия соответствующего ограничения. Все это вполне соответствует международным нормам.

С принятием данного закона значительное количество советских граждан, очевидно, пожелает воспользоваться своим правом на выезд из страны. Нельзя не видеть, что эмиграционные настроения в обществе сегодня, как никогда, усилились. Причины этого хорошо известны: кризисные явления в самых разных областях жизни, общая неустроенность быта, неудовлетворенность результатами своего труда, обострение национальных конфликтов.

Вместе с тем трудно принять на веру большинство цифровых выкладок, которые призваны характеризовать масштабы предстоящей эмиграции. В этих данных, скорее всего, за точку отсчета берется предполагаемый общий эмиграционный потенциал советских граждан. Кроме того, упускается из виду, что готовность выехать напрямую связана с готовностью противоположной стороны принять выезжающих. А иммиграционная политика большинства европейских стран, США, Австралии, Новой Зеландии принимает в последнее время все более жесткие формы. Именно эти факторы плюс высокая насыщенность рынка труда в странах Запада, в том числе иностранной рабочей силой, делают более правдоподобными иные предположения относительно масштабов эмиграции. Эксперты Совета Европы считают наиболее вероятным, что из СССР по трудовому найму будут выезжать несколько десятков тысяч человек в год. Близкие к этому оценки делают и ученые московского Центра социально-стратегических исследований. Согласно их анализу, в предстоящие 10 лет отток советских граждан может составить от 2,5 миллиона до 7 миллионов человек, т. е. 250 — 700 тысяч человек в год. Сами по себе эти цифры весьма значительны, однако в сопоставлении с показателями текущей эмиграции—свыше 400 тысяч человек в 1990 году — они выглядят не столь пугающими. При этом следует иметь в виду, что если эмигранты, покидающие страну по национальному признаку, уезжают, как правило, насовсем, то выезд в рамках будущего закона будет по преимуществу носить характер трудового найма, что предполагает через определенное время возвращение советских граждан на родину.

Говоря по большому счету, разработка законопроекта о выезде и въезде в СССР преследует цель установить общепринятые в цивилизованном сообществе стандарты в области основных прав и свобод человека. В СССР, хотя и с немалым запозданием, начинают также осознавать необходимость подключиться к объективным процессам хозяйственного развития в мире, подразумевающим наличие рынков труда и миграцию рабочей силы. В разных частях света сложились и продолжают складываться центры притяжения иностранных рабочих, специалистов, ученых: кстати сказать, одним из таких центров сегодня становится и Советский Союз. В разных его частях на начало 1990 года было занято около 200 тысяч рабочих и специалистов из других стран (вьетнамцы, кубинцы, болгары, китайцы, корейцы, а также представители Италии, Сирии и др. стран).

Преодолевая свои собственные страхи и психологическую скованность, мы шаг за шагом приходим к пониманию того, что экспорт трудовых ресурсов — это не только закономерность, но и при рациональном подходе весьма прибыльное дело.

Активный выход Советского Союза на арену политической и экономической жизни Европы искренне приветствуют все государства нашего континента. Вполне понятно желание многих из них оказать нам на первых порах посильную поддержку, в первую очередь в области экономики. Это касается и вопросов миграции. Все чаще дает себя знать готовность многих стран Запада с целью противодействия эмиграционным настроениям в СССР предоставить Советскому Союзу многообразную помощь путем расширения и модернизации его производственных мощностей, инфраструктуры, обучения и переподготовки кадров и т. п.

Импонирует и позиция, прослеживаемая в руководящих инстанциях ЕС, Совета Европы, ряда европейских стран, которые отнюдь не считают, что вопросы эмиграции из СССР можно решить через отгораживание от Советского Союза с помощью визовых, квотных и прочих заслонов. Подобные методы вполне могли бы походить на дискриминацию советских граждан на фоне распространенной практики приема рабочих из других стран. Решение вопроса видится в согласовании подходов обеих сторон к проблеме миграции, выработке взаимоприемлемых механизмов регулирования миграционных потоков.

Очевидно, возникает потребность на двусторонней основе прорабатывать правовые, социальные и прочие аспекты миграции трудовых ресурсов. Подписание по примеру других стран соответствующих двусторонних соглашений создаст для мигрантов необходимые юридические и прочие гарантии, обеспечит им приемлемый уровень социальной защиты, заложит предпосылки для их последующего возвращения на родину и полного включения в трудовой процесс у себя дома.

Именно такие подходы, а не возведение своего рода нового «железного занавеса», на этот раз со стороны Запада против Советского Союза, отвечали бы духу конструктивного и плодотворного сотрудничества, которое становится доминирующей тенденцией на пути к общеевропейскому дому.

**Геннадий ПАВЛОВ,**
**Юрий РЕШЕТОВ,**
**сотрудники гуманитарного управления МИД СССР.**

## РЭСТАЎРЫРУЕЦЦА МАНАСТЫР



Набыў гаспадара і хутка зноў будзе служыць людзям старадаўні архітэктурны комплекс езуіцкага манастыра, што многія гады застаецца без нагляду ў самым цэнтры Гродна, каля Фарнага касцёла. Не пашкадаваў сродкаў і будматэрыялаў на аднаўленне арыгінальнага будынка XVIII стагоддзя, выдзеліў рабочых мясцовы калгас-камбінат «Прагрэс». Па праекту малога прадпрыемства «Гроднапраектрэстаўрацыя» гаспадарка стварае ў былой манастырскай пабудове свой гасцінічна-гандлёвы комплекс. Для жыхароў Гродна тут адкрыюцца ўтульнае кафэ і магазін, дзе можна будзе набыць сельскагаспадарчую прадукцыю высокай якасці.

НА ЗДЫМКУ: на будаўнічай пляцоўцы гасцінічна-гандлёвага комплексу.

Фота Ю. ПАЎЛАВА.

## УСТУПІЎ МУЗЕЮ І БІБЛІЯТЭЦЫ

По новаму адрасу — у былы будынак абкома партыі, вядомы яшчэ пад назвай Новы замак, — пераязджае цяпер абласная бібліятэка імя Яўхіма Карскага ў Гродне. Яна займае правае крыло двухпавярховага прыгожага асабняка.

Астатнюю частку будынка пасля перапланіроўкі займе мясцовы гісторыка-археалагічны музей, за якім захавана і ранейшае памяшканне.

Такое рашэнне з улікам пажаданняў гродзенцаў прыняло ўпраўленне культуры аблвыканкома, якому абласны Савет перадаў былы будынак абкома. Сам жа абком пасля скарачэння апарата перасяліўся ў памяшканне аднаго з ліквідаваных у горадзе райкомаў партыі.

## ПАВАЖАНЫЯ ЗАМЕЖНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ!

Падпіска на тыднёвік «Голас Радзімы» — ваш дзейсны крок у збудаванні моста вашай духоўнай лучнасці з Бацькаўшчынай!

Сваімі інфармацыйнымі і аналітычнымі матэрыяламі на роднай мове, якія грунтуюцца на прынцыпах плюралізму, «Голас Радзімы» дае магчымасць суайчыннікам дасведчана сачыць за ўсёй шматграннасцю напружанага жыцця Беларусі.

**НАГАДВАЕМ: НАШ ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63854, ЦАНА НА ГОД — 13 ДОЛАРАЎ ЗША.**

Аднак вострыя праблемы краіны, на жаль, ужо аказваюць адмоўнае ўздзеянне на памкненні зарубежных беларусаў падпісацца і атрымліваць «Голас Радзімы». Сведчанне гэтаму — вашы нараканні на хібы і зрыў падпіскі, што праводзіць Усесаюзнае аб'яднанне «Міжнародная кніга» праз заходнія магазіны і фірмы, некаторыя з якіх сёння наогул закрываюцца. Выправіць становішча рэдакцыя не ў стане: «Міжкніга» — манапаліст у гэтай справе. Аднак, рэагуючы на скаргі, мы дасылаем нашу газету за кошт рэдакцыі і «пацярпеўшым» адрасатам, і па прыватных просьбах. Мы будзем і надалей ісці такім шляхам насустрач пажаданням нашых іншаземных чытачоў, пакуль эканамічны крызіс, падаражанне паперы і паштовых паслуг канчаткова не падвядуць нас, як і ўсе перыядычныя беларускамоўныя выданні рэспублікі, да фінансавага краху.

**ШАНОЎНЫЯ ЗАМЕЖНЫЯ ЗЕМЛЯКІ! КАЛІ ВАМ НЕАБЫЯКАВЫ ЛЁС ГАЗЕТЫ, ЧАКАНАЙ ГОСЦІ Ў ВАШЫМ ДОМЕ, БУДУЧЫНЯ ВАШЫХ ДУХОЎНЫХ СУВЯЗЕЙ З РАДЗІМАЙ, АХВЯРУЙЦЕ ПАСІЛЬНЫЯ ВАЛЮТНЫЯ ДАТКІ НА СТВАРЭННЕ ФОНДУ ДАПАМОГІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ». АХВЯРАВАННІ (І ЯК ПРАЯВА ДАБРАЧЫННАСЦІ, І ЯК КАМПЕНСАЦЫЯ ЗА ПЕРАСЫЛКУ) НАКІРОЎВАЙЦЕ НА АДРАС: БССР, 220600, г. МІНСК, ВУЛ. ЗАСЛАЎСКАЯ, 10, ПАЗАБАЛАНСАВЫ РАХУНАК 933280 У АПЕРУ ЗНЕШЭКАНОМБАНКА БССР, ФОНД ДАПАМОГІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ».**

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### БУЛЬБЯНЫ СУП З БРУЧКАЙ

Мяса зварыць, дабавіць прыправы. Бручку і бульбу абабраць, нарэзаць дробнымі кавалачкамі, пакласці ў булён і варыць на малым агні пры закрытай крышцы. Перад падачай пасыпаць пятрушкай.

На 5 порцый 2 літры мяснога булёну, 300 грамаў свініны ці бараніны, 500 грамаў бульбы, 500 грамаў бручкі, лаўровы ліст, 5-6 гарошын духмянага перцу, 2 цыбуліны, соль, 1 чайная лыжка маярану, 1/2 чайнай лыжкі кмену, 1 сталовая лыжка рубленай пятрушкі.

### САЛАТА ПА-БЕЛАРУСКУ

Звараную ў шалупінні бульбу абабраць, нарэзаць кубікамі. Дабавіць нарэзаныя грыбы, перац, цукар, соль і смятану. Пакласці горкай, пасыпаць дробна нарэзаным зяленівам ці цыбуляй.

На 3 порцыі 500 грамаў бульбы, 1/3 шклянкі салёных ці марынаваных грыбоў (можна дабавіць крыху салёных агуркоў), 3 сталовыя лыжкі смятаны, 1 чайная лыжка зяленіва ці здробненай рэпчатай цыбулі, перац, цукар, соль.

### САЛАТА БУЛЬБЯНАЯ З РЭДЗЬКАЙ

Вараную бульбу нарэзаць тонкімі скрылікамі. Дабавіць цёртую на тарцы рэдзьку, дробна нарэзаную цыбулю, пасаліць, уліць алей. Усё добра перамяшаць, упрыгожыць зяленівам.

На 5 порцый 400—600 грамаў бульбы, 1 рэдзька, 2 цыбуліны, 3 сталовыя лыжкі алею, соль, зяленіва.

### БАБКА БУЛЬБЯНАЯ СА СВІНІНАЙ

У сырую цёртую бульбу пакласці муку і цыбулю, падсмажаную на сале. Свініну нарэзаць дробнымі кубікамі і абсмажыць. Усё перамяшаць, дабавіць соль і перац. Пакласці ў глыбокую патэльню ці гаршчок, змазаныя тлушчам, і паставіць у духоўку для запякання. Падаць у гарачым выглядзе з маслам.

На 10 порцый 1 кілаграм 600 грамаў бульбы, 350 грамаў свініны, 2 чайныя лыжкі мукі, 50 грамаў сала, 2 цыбуліны, 2 сталовыя лыжкі масла, соль.

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Шукаецца ЯБЛОНСКІ Сцяпан (Стэфан) Мацвеевіч, які нарадзіўся ў 1892 годзе ў вёсцы Маркава Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці. Яго маці звалася Анастасія. Сцяпан ЯБЛОНСКІ ажаніўся ў вёсцы Аборкі з Вольгай АЛЯКСАНДРАЎНАЙ, у дзявоцтве ШЫМАН, 1906 года нараджэння. Потым яны выехалі за мяжу. Мелі дзвюх дачок — ЯБЛОНСКУЮ Надзею Сцяпанаўну і ЯБЛОНСКУЮ Ганну Сцяпанаўну. Вядома, што Сцяпан ЯБЛОНСКІ пасля вайны прыязджаў на Радзіму. Шукае сваякоў унучка сястры Сцяпана ЯБЛОНСКАГА Вольгі Мацвееўны СЛУЦКАЙ АНІКЕЕВА Ларыса Міхайлаўна.

Просім усіх, хто што-небудзь ведае пра Сцяпана ЯБЛОНСКАГА і яго блізкіх, пісаць у рэдакцыю альбо на адрас:

БССР, 210015, г. Віцебск, пр. Чарняхоўскага, д. 22, кв. 18.

АНІКЕЕВАЙ Ларысе Міхайлаўне.



НА ЗДЫМКУ: злева Сцяпан ЯБЛОНСКІ, у цэнтры малодшы брат, справа Вольга СЛУЦКАЯ.

Мой родны дзядзька ВІЛЬТОЎСКІ Яфім Пятровіч выехаў у 1914 годзе ў Амерыку. Жыў з сям'ёй у горадзе Спрындвель. Да 1937 года з ім падтрымлівалася перапіска, але пасля арышту майго бацькі перапынілася. Ведаю, што ў дзядзькі былі дзеці: сын ВІЛЬТОЎСКІ Аляксандр Яфімавіч і дочкі Зоя і Вольга ВІЛЬТОЎСКІЯ (у дзявоцтве).

Я, ВІЛЬТОЎСКІ Павел Уладзіміравіч, даводжуся ім стрыечным братам. Вядома, дзядзькі ўжо няма ў жывых, але хацелася б даведацца пра лёс яго дачок.

Прашу ўсіх, хто можа дапамагчы мне ў пошуках, пісаць на адрас: БССР, 220086, г. Мінск, вул. Славінскага, д. 15, кв. 16. ВІЛЬТОЎСКАМУ Паўлу Уладзіміравічу.



## НАШ АДРАС:

МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Зак. № 138.